4 Расследуются обстоятельства гибели учительницы
5 Расписание движения пригородных поездов
8 Конкурс "Сканворд"



Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.

# Газета Слонімская





№23 (156). 1 — 7 чэрвеня 2000г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік http://gs.promedia.minsk.by Кошт 80 руб.



Фота Віталя ГІЛЯ

*На здымках: вучні СШ № 2 г. Слоніма*

# АПОШНІ ЗВАНОК



Пазвінеў апошні званок у школах. Нарэшце нашы дзеткі дачакаліся канікулаў. Але адны хлопчыкі і дзяўчынкі будуць усё лета адпачываць, а ў другіх — напярэдадзе экзамены. Сёлета апошні званок празвінеў амаль для 490 выпускнікоў слонімскіх школ. Пасля экзаменаў у іх пачнецца самастойнае жыццё. Якім яно будзе — пакажа час. Так хочацца спадзявацца, што наперадзе ў іх усё будзе добра.

## Ермошин побывает на Гродненщине

**На 2 июня запланирована рабочая поездка премьер-министра Беларуси Владимира Ермошина в Гродненскую область.**

В этот день на выездном заседании президиума Совета Министров будут рассматриваться вопросы подготовки к уборке урожая сельскохозяйственных культур.

**БелаПАН**

## І ў белых халатах крадуць па-чорнаму

**Нядаўна супрацоўнікі дзяржкантролю разам з пэўнымі службамі Лідскага выканкама праверылі працу мясцовай раённай бальніцы.**

Кантралёры выявілі на кухні лішкі прадуктаў: сем кілаграмаў тварагу, амаль па 12 кілаграмаў сметанковага масла і смятаны, звыш пяці кілаграмаў гуляшу. Усё гэта было прыхавана кухаркамі бальніцы, хаця прадукты прызначаліся для хворых.

Падобныя махінацыі выкрыты таксама ў Першамайскай, Бярозаўскай, Тарноўскай бальніцах.

**Станіслаў ХУТАРАНЕЦ**

## На фестывалі спявалі па-польску

**У мястэчку Беліца Лідскага раёна прайшоў занальны фестываль польскай песні.**

Сваё майстэрства і талент прадэманстравалі мясцовыя самадзейныя калектывы.

Падобны фестываль прайшоў таксама ў вёсцы Забалаць Воранаўскага раёна. У ім удзельнічалі артысты і са Шчучына. Гледачоў уразілі выступленні хора "Прыяцелька" з гарадскога пасёлка Радунь і гурта "Адраджэнне" з вёскі Васілішкі.

**Станіслаў ХУТАРАНЕЦ**

## Вось і праехалі

**Як сведчаць аператыўныя міліцэйскія зводкі, апошнія дні ў Слоніме і раёне мінулі адносна спакойна ў плане крымінальных здарэнняў.**

Зафіксаваны толькі два крадзяжы: невядомыя знялі два колы з аўтамашыны "Жыгулі", а каля магазіна "Лета" знік веласіпед.

У нядзелю, 27 чэрвеня, у раёне Лабазоўкі здарылася аўтамабільная аварыя. Двое юнакоў і адна дзяўчына вырашылі з ветрыкам праімчаць на матацыкле, але кіроўца пераацаніў свае здольнасці гоншчыка і стукнуўся ў грузавік. У выніку ўсе трое трапілі ў бальніцу.

**В.Я.**

## Румын всучил подделку белорусам

**Сотрудники Каменецкого райотдела милиции (Брестская область) задержали гражданина Румынии Константина Л., которому предъявлено обвинение в мошенничестве.**

Как стало известно, в Каменецкий отдел милиции обратились жители Слонима и Бреста. По их словам, 28 мая они остановились на автодороге Слоним — Высокое, чтобы помочь автолюбителю, якобы попавшему в беду. На ломаном русском языке тот жаловался, что автомобиль сломался, бензин кончился, а денег нет. Сердобольные белорусы купили у неизвестного пять печаток из желтого металла, которые продавец предложил как золото по сносной цене. Очень быстро покупатели выяснили, что им всучили подделки. По горячим следам сотрудникам милиции удалось задержать дорожного мошенника, которым оказался 24-летний румынский цыган. В отношении него возбуждено уголовное дело по статье, которая предполагает наказание в виде лишения свободы от двух до шести лет.

**Валентина КОЗЛОВИЧ**

## ВУЧЭННІ ПА ГРАМАДЗЯНСКАЙ АБАРОНЕ

**26 і 27 траўня на Слонімшчыне прайшлі вучэнні па грамадзянскай абароне.**

Па словах начальніка гарадскога штаба грамадзянскай абароны Уладзіміра Кукушкіна, у вучэннях удзельнічалі ўсе слонімскія прадпрыемствы, саўгасы і калгасы. Усяго было задзейнічана каля 2 тысяч чалавек. Галоўная мэта гэтага мерапрыемства — "адпрацоўка гатоўнасці неваенізаваных фарміраванняў для дзеяння ў надзвычайных сітуацыях".

**Сяргей ЁРШ**

## ПРЫЗЫЎНІКОЎ ЧАКАЕ ВОЙСКА

**У слонімскім ваенкамаце пачаўся медыцынскі агляд прызыўнікоў.**

Да сярэдзіны чэрвеня яго будуць праходзіць тыя хлопцы, якія маюць адтэрміноўку ад прызыву для працягу адукацыі, па сямейных абставінах і па стану здароўя. Астатнія слонімцы пройдуць медагляд на працягу чэрвеня-ліпеня.

Па словах ваенкома Аляксандра Купкі, на сённяшні дзень кожны пяты прызыўнік не годны да вайсковай службы.

Ужо вядома, што першая адпраўка маладых слонімцаў у беларускае войска адбудзецца 10 ліпеня.

**Віталь ГІЛЬ**

## Дрот карыстаецца попытам

**Днямі невядомыя ўкралі 600 метраў алюмініевага дроту з высакавольтнай электралініі, якая будуецца каля вёскі Баяры Слонімскага раёна.**

Высвятляецца, што апошнім часам алюміній стаў карыстацца вялікім попытам на Захадзе. Менавіта туды і збывае метал праз пэўныя каналы за добрыя грошы кемлівая публіка.

**Анатоль МІРСКІ**

## Цены на водку, похоже, вновь поднимутся

**Постановлением Совета Министров Беларуси с 4 июня будут увеличены акцизы на некоторые виды алкогольной продукции.**

Ставка акциза на ликеро-водочные изделия с объемной долей этилового спирта до 28 процентов включительно повышена с 2 до 4 евро за 1 литр безводного (стопроцентного) этилового спирта, содержащегося в готовой продукции.

Акциз на напитки винные с использованием концентрированных пищевых основ и натурального сырья, кроме ввозимых на территорию Беларуси, вырос с 0,8 до 1,5 евро; акциз на напитки винные (плодовые, плодовые крепкие и виноградные) с объемной долей этилового спирта до 20 процентов включительно — с 1,5 до 3 евро.

**Дмитрий ВЛАСОВ**

# АКЦЁР З АЛЬБЯРЦІНА

**Нядаўна ў Слоніме пабываў рэжысёр тэатра, акцёр, наш зямляк Казімір Іванавіч Ярашчук, які цяпер жыве ў Літве.**

Ён нарадзіўся ў Альбярціне, працаваў рабочым на картонна-папяровым заводзе. Удзельнічаў у мастацкай самадзейнасці, працаваў акцёрам у Слонімскім народным тэатры.

Казімір Ярашчук удзельнічаў у здымках мастацкага фільма "Паланэз Агінскага", што ствараўся на Слонімшчыне. Спачатку Ярашчука планавалі на ролю нямецкага афіцэра, аднак у апошні момант гэтую ролю атрымаў літоўскі акцёр. А Казімір Ярашчук сыграў ад'ютанта нямецкага афіцэра. Па яго ных словах, шмат чаго з фільма пазней было выразана...


Фота Віталя ПІЛЯ

Казімір Ярашчук у свой час закончыў рэжысёрскі факультэт Акадэміі мастацтваў у Мінску. Працаваў рэжысёрам тэатра ў Друскенінкаі (Літва). Цяпер ён на пенсіі.

**Алег ТАЧОНЫ**

## Пра нашага земляка

**У Скарынаўскім цэнтры ў Мінску на выставе, прысвечанай беларускай эміграцыі, змешчаны стэнд, які распавядае пра нашага земляка Лаўрэна Клыбіка.**

Пра Лаўрэна Клыбіка "ГС" пісала ў 1997 годзе. Ён, ураджэнец вёскі Хадзявічы, яшчэ юнаком трапіў на эміграцыю, жыве ў Бельгіі, працуе фармацэўтам. Стэнд так і называецца "Фармацэўт Лаўрэн Клыбік". На ім змешчана шмат рэдкіх фотаздымкаў з архіва Клыбіка. Напрыклад, здымкі яго хаты ў Хадзявічах у 1939 годзе і сучаснага загараднага дома ў Бельгіі. Можна пабачыць, як выглядае будынак аптэкі нашага земляка. Ёсць на стэндзе і здымак унука Лаўрэна Клыбіка Бенжаміна.

**Сяргей ЁРШ**

## Дождутся ли ветераны ЗАСЛУЖЕННЫХ ЛЬГОТ

**Палата представителей вновь не смогла утвердить изменения и дополнения в закон "О ветеранах".**

Этот законопроект находится в парламенте уже два года. Последний раз депутаты приступали к его рассмотрению 12 апреля, однако так и не приняли никакого решения. Дело в том, что, по мнению ряда ветеранских организаций, данный документ, разработанный во исполнение президентского указа от 1 сентября 1995 года "Об упорядочении некоторых льгот для отдельных категорий граждан", ухудшает положение ветеранов.

24 мая парламентарии пошли ветеранам навстречу и приняли ряд поправок, ранее не предусмотренных законопроектом. Депутаты, в частности, освободили отдельные категории ветеранов от платы за пользование жилыми помещениями в пределах 20 квадратных метров общей площади жилья и от оплаты технических и коммунальных услуг. Правда, данные льготы распространяются только на одиноких инвалидов войны I и II групп, а также на одиноких родителей, супругов и детей лиц, погибших во время вооруженных конфликтов.

Теперь, поскольку данные поправки не были заранее согласованы с А.Лукашенко и требуют выделения из бюджета дополнительных средств, законопроект вновь поступит в администрацию президента для согласования с главой государства.

**БелаПАН**

# НАСТУПЛЕНИЕ НА "ЧЕРНЫЙ" РЫНОК ПРОДОЛЖАЕТСЯ

**Национальный банк Беларуси продолжит работу по сближению курсов рубля на всех сегментах валютного рынка.**

Как заявил 25 мая на пресс-конференции заместитель председателя правления Нацбанка Николай Лузгин, уже сейчас Нацбанку практически удалось добиться ситуации, когда осталось два курса — официальный и складывающийся на остальных сегментах валютного рынка. Он признал, что полностью ликвидировать "черный" рынок пока не удалось, но произошедшие в последние месяцы изменения на валютном рынке носят позитивный характер. Разрывы в котировках "черного" рынка и банковских обменных пунктов минимальны и составляют от 5 до 15 рублей. Обороты "черного" рынка, которые ранее составляли 80–90 процентов операций, сейчас резко снизились и, по оценкам Нацбанка, составляют менее 20–30 процентов.

По словам Н.Лузгина, на рынке нерезидентов сняты ограничения по экспорту за белорусские рубли, но остаются ограничения по импорту. Импорт за белорусские рубли по-прежнему можно осуществлять лишь на основе разрешений, выдаваемых Национальным банком. Объем этих разрешений постоянно увеличивается, и, соответственно, увеличивается объем белорусских рублей на счетах нерезидентов — с 1,5 миллиарда на начало года до 3–3,5 миллиардов ныне. Курс на рынке нерезидентов относительно стабилен, близок к курсу на дополнительной сессии и составляет около 970 рублей за доллар.

В Нацбанке Беларуси по-прежнему рассчитывают выйти на единый курс в третьем квартале этого года.

**Алексей ОРЕШКО**

## Отсрочек не будет

**Правительство будет проводить жесткую политику в области ресурсосбережения и расчетов за энергоресурсы.**

Об этом заявил премьер-министр Беларуси Владимир Ермошин во время посещения 4-й Международной специализированной выставки "Энерго- и ресурсосбережение", которая проходит в Минске. Никаких отсрочек по уплате долгов за энергоресурсы для предприятий, работающих в реальном секторе экономики, не будет, заявил премьер. Исключение составляет аграрный сектор, который уже три года оказывается в чрезвычайном положении.

По данным статистики, на начало мая задолженность белорусских предприятий за электро- и теплоэнергию составила порядка 98 миллиардов рублей. Руководство концерна "Белэнерго" продолжает настаивать на отмене практики предоставления отсрочек по оплате задолженности потребителям энергии.

**Наталья КУЛАГИНА**

## ВСЕ ПАДАЕМ И ПАДАЕМ

**Почти все отрасли белорусской промышленности снизили объем производства в апреле 2000 года.**

В целом же за месяц, по данным Министерства статистики и анализа, объем промышленного производства в республике уменьшился на 10,2%. Причем этот спад произошел после столь же значительного (на 11,2%) прироста в марте нынешнего года.

Наибольший спад производства наблюдался в апреле в электроэнергетике (на 25%), лесной, деревообрабатывающей и целлюлозно-бумажной (на 13,9), а также в топливной промышленности (на 12,6%). И лишь в промышленности строительных материалов зафиксирован прирост (на 7,1%).

Продолжают увеличиваться запасы готовой продукции на складах предприятий. На начало мая они составили 56,8% от среднемесячного объема производства против 52,3% в начале апреля. Особенно велик этот показатель в машиностроении и металлообработке (100,4%).

Количество убыточных промышленных предприятий в январе — марте 2000 года в два с лишним раза превышало их численность за аналогичный прошлогодний период (29,3% от общего числа предприятий против 13%).

**БелаПАН**

## ЗДАРЭННІ

### Конь забіў гаспадара

**Жыхары вёскі Кульбакі Лідскага раёна нечакана выявілі на падворку адной з сядзіб мёртвага 65-гадовага пенсіянера з мноствам траўмаў галавы.**

Высветлілася, што мужчына загінуў ад уласнага каня. Некалькі гадоў таму ў мястэчку Забалаць (Воранаўскі раён) таксама ўдарам конскага капыта быў забіты хлопчык.

**Сымон ВАЛОШКА**

### Намахлявалі

**Нядаўна ў Дзятлаве міліцыя затрымала трох цыганак.**

Яны абвінавачваюцца ў тым, што шляхам махлярства завалодалі 20 тысячамі рублёў.

### Наляцеў на аўтамабіль

**У Дзятлаве непадалёку ад хлебнай крамы здарылася аварыя.**

Сталы чалавек, рухаючыся на веласіпедзе, выехаў на сустрэчную паласу і сутыкнуўся з легкавым аўтамабілем. У выніку мужчына трапіў у бальніцу з чэрапна-мазгавой траўмай.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

# СПАБОРНІЧАЛІ БАНКАЎСКІЯ РАБОТНІКІ

**У мінулыя выхадныя на Зэльвенскім вадасховішчы адбылося спартыўнае свята работнікаў "Беларусбанка" Гродзенскай вобласці.**


*Канат цягне слонімская каманда*


*Валянціне Паланейчык (справа) не было роўных*

Удзел прынялі 16 каманд. Слонім прадстаўляла 20 супрацоўнікаў 422-га філіяла ААБ "Беларусбанка". Банкіры спаборнічалі ў пераадоленні паласы перашкод, гулялі ў валейбол, футбол, вызначалі былі мацнейшых ў армрэслінгу і лепшых ў конкурсе песні.

Слонімская каманда была сёмай. У індывідуальным заліку перамаглі сланімчанкі: Валянціна Паланейчык (армрэслінг) і Святлана Панасеня (бег на 800 метраў).

**Сяргей ЁРШ**

## Откажись от табака и выиграй ДВЕ ТЫСЯЧИ ДОЛЛАРОВ

**Почти пять тысяч белорусских курильщиков приняли участие в международном конкурсе-лотерее "Брось курить и выиграй — 2000", который проходит в Беларуси.**

Лотерея была предложена Национальным институтом общественного здоровья (Финляндия) и одобрена Всемирной организацией здравоохранения. Эту кампанию поддерживают и лидеры в производстве антиникотиновых средств ("Глаксо Велкомм" и другие). Первый розыгрыш лотереи прошел в 1994 году; тогда в ней приняли участие 13 стран. Беларусь участвует в конкурсе с 1996 года.

Победители республиканского конкурса будут представлены в финальной части Европейского конкурса-лотереи, где будет разыгран приз — две с половиной тысячи долларов США. Его лауреаты смогут побороться за главный международный суперприз — 10 тысяч долларов США, розыгрыш которого состоится 9 июня на Кипре.

**БелаПАН**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны: рэдакцыі .........2-14-39
..........(017) 210-87-17
аддзел рэкламы ..........2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць. Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 31 траўня 2000г. Час падпісання 7:00.
Надрукавана ў Слонімскай узбуйненай друкарні, г. Слонім, вул. Хлюпіна, 16.

Падпісныя індэксы: 64042 (індывідуальная) 63818 (ведамасная)
Наклад 8400 экз. Заказ № 2047
© «Газета Слонімская» Спасылка на "ГС" абавязковая
Ⓡ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://gs.promedia.minsk.by

# СЕМІНАР ДЛЯ ГІТАРЫСТАЎ

**У суботу, 27 траўня, у Слоніме прайшоў семінар для аматараў музыкі — гітарыстаў.**

Праводзіла яго група слонімскіх аматараў беларускага року, якая запрасіла з Гродна вядомага беларускага барда Віктара Шалкевіча.

Віктар Шалкевіч правёў пачатковыя заняткі "Майстар-класа ігры на гітары і бардаўскай песні", на якіх прысутнічала некалькі дзесяткаў маладых слонімцаў. Ён расказваў таксама пра прафесійную ігру, пра тое, "як пішуцца песні". На заканчэнне ўдзельнікі атрымалі "хатняе заданне" да наступнага падобнага семінару. Як вынік гэтага мерапрыемства, трэба адзначыць і тое, што ў Слоніме стала больш маладых аматараў беларускай музыкі.

Арганізатары адзначаюць, што вялікую дапамогу ім аказаў гарнізонны Дом афіцэраў, які выдзеліў для правядзення семінара памяшканне.

**Сяргей ЁРШ**

# НАВАТ СЯРОД СЛАБЫХ ЁСЦЬ ЛЕПШЫЯ

**Нягледзячы на зімовую бяскорміцу, калі калгасным каровам не хапала звычайнай саломы, райвыканкам падвёў вынікі раённага спаборніцтва за дасягненне лепшых паказчыкаў па вытворчасці, рэалізацыі і павышэнню якасці жывёлагадоўчай прадукцыі ў зімовы стойлавы перыяд. Пераможцам спаборніцтва быў прызнаны калгас "Світанне" Мастоўскага раёна.**

З раённага бюджэта гаспадарку прэміравалі ў памеры 200 мінімальных заработных плат. Паколькі астатнія калгасы і саўгасы мелі зніжэнне прывагі жывёлы і надояў, то больш прызавых месцаў не прысуджалі.

Адначасова прынята прапанова райаграпрамхарчу працягваць спаборніцтвы.

# МАСТОЎСКІЯ ФІЛАТЭЛІСТЫ

**Па выніках конкурсу-апытання "Лепшая паштовая марка Рэспублікі Беларусь 1999 года", які праводзіла рэспубліканскае аб'яднанне "Белпошта", стаў блок Марка Шагала "У часу толькі адно крыло".**

Сярод пераможцаў– вучань 11 класа СШ №5, горада Масты Дзмітрый Процка. Ён узнагароджаны гадавым камплектам марак 1999 г. Тэматычныя камплекты марак атрымалі таксама вучань 7 класа Луненскай школы Аляксандр Судак і выхавальніца дзіцячага садка №6 Вераніка Радзінская.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

# НАДЗЕІ ЗБЫЛІСЯ Ў МАСТАХ

**У Мастах прайшоў другі абласны фестываль эстраднай дзіцячай творчасці "Масты надзей".**

У конкурсе ўдзельнічала 287 маладых артыстаў з усіх раёнаў вобласці. Мастоўскі раён быў прадстаўлены шасцю ўдзельнікамі. Журы прысудзіла другое месца дуэту Вікторыі Радзінскай і Андрэю Грыгор'еву, другое месца Андрэю Грыгор'еву як салісту. Ірына Мураўёва са студыі "Фан-тон" была адзначана заахвочвальным прызам.

А вось слонімскія дзеці сталі лаўрэатамі ва ўсіх намінацыях. Вучні другой сярэдняй школы занялі тры месцы. А юныя артысты з восьмай школы – аж шэсць. У прыватнасці, вельмі ўдала выступілі квартэт і тры хлопчыкаў. Атрымалі высокае прызнанне ў журы і ў гледачоў салісткі Дзіяна Лугіна (7 клас), Юлія Крот (6 клас), а таксама эстрадна-спартыўная група "Каскад" (РДК).

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

<u>фельетон</u>

# Далікатная СПРАВА

Калі Міхася Купіну звольнілі за п'янку з раённай нарыхтоўчай канторы, жонка заляпіла яму аплявуху і адразу ж пазваніла свайму дзядзьку Антосю Жабскаму, які ахоўваў прыроду:

— Уладкуйце гэтага няцямлю да сябе, няхай пасе травяных конікаў, калі не хацеў займацца сапраўднай справай.

— У мяне што, па-твойму, прахадны двор? Як хто з радні праштрафіцца, то сюды сунуцца: памажы, памажы! А ў мяне, між іншым, далікатная справа. Тут трэба круціцца і выкручвацца, а не пасвіць травяных конікаў. З салідНымі людзьмі справу маем больш, чым з той прыродай.

У мінулым годзе, калі памятаеш, я ўзяў на работу твайго брата, гультая і забіяку Міцьку, якога за растрату праперлі з гандлю. Усяго і клопату ў яго было, што сустракаць паважаных людзей — паляўнічых і рыбаловаў. Дроў там для вогнішча нарыхтаваць, рыбу з сетак выблытаць, юшку зварыць. Дык ён што адноўчы вырабіў? Прыехала да нас начальства з вобласці. Шчупак, памятаю, якраз на нераст ішоў. Я і сам паехаў разам з госцем на раку. Ну, выпілі добра за ўдачу, пасля закінулі сетку, нацягалі шчупакоў. І пачаў Міцька рыбу чысціць. Узяў самага вялізнага шчупака, расчаперыў яму пашчу, паклікаў майго абласнога начальніка ды кажа:

— Купрыянавіч, во дзіва! Век такога не бачыў. Шчупак вялізны, а зубы ў яго мякенькія, як маладзенькі лісточак. Памацайце, калі ласка. Мы ўсе асалавела пазіралі на агонь у вогнішчы, а Купрыянавіч і сапраўды запёр палец у шчупакоў рот па самае годзе. А Міцька-аболтус узяў і выпусціў рыбіну галаву з рук. Зубы ўпіліся ў Купрыянавічаў тоўсты палец, як іголкі ў бутэльку. Ён ускіпеў, нібы юшка ў вядры. Мы ўсе кінуліся ратаваць, а што канкрэтна рабіць — не ведаем. Вядома ж, у галаве каньячныя пары клубяцца. Вадзіцель, што прывёз гасцей, ухапіўся за шчупака і з сілай пацягнуў да сябе. Купрыянавіч зароў, як лось у гушчары. Потым нехта здагадаўся зноў расчаперыць пашчу і палец, нарэшце, дасталі.

Госці адразу ж паехалі дадому. Нават юшкі не дачакаліся і рыбу налоўленую пакінулі.

Міцьку, сама ведаеш, прыйшлося звольніць. А я неяк на пасадзе ўтрымаўся. Улагоджваць давялося начальства з вялікім стараннем. А ты мне цяпер другога дурня хочаш падсунуць?

Кабета ўсхліпнула і Жабскі змяніў гнеў на міласць: "Добра, няхай заўтра прыходзіць на інструктаж".

Міхась Купіна аказаўся здольным вучнем і надзейным памочнікам дзядзькі Жабскага. Ён спраўна варыў юшку для высокіх гасцей, свежаваў тушы звяроў, студзіў у рэчцы піва, і ўсе былі ім задаволены.




— Ты мне і парушальнікаў шукай, а не толькі гасцей улагоджвай, — павучаў дзядзька. — Калі ў лесе ці на рацэ зловіш за недастойным заняткам якога прастака, штрафуй смела, без агляду. Гэтыя канцоў век не знойдуць ды і шукаць не будуць, нават калі што і не так.

— Нашых прастакоў нават у Афрыцы пазнаеш. Такіх людзей больш няма нідзе — памяркоўных, сціплых і працавітых. Ты мяне зразумеў? Калі не зразумееў, то табе няма чаго рабіць у ахове прыроды.

Міхась і ў гэтай справе аказаўся дока. Але аднойчы ў час нерасту ён убачыў на рацэ двух чалавек няпэўнага паходжання. Яны закідвалі сетку. Нібыта і падобныя на прастакоў: у гумовых ботах, фуфайках. Але боты былі з высокімі халявамі і паблізу стаяў імпартны легкавік. Тут любы заблытаецца ў здагадках.

Міхась зашыўся далей у прыбярэжныя кусты, зняў форменную вопратку і таксама прыбраўся ў фуфайку і гумовікі. Сваю форму з пасведчаннем ахоўніка прыроды схаваў пад кустом і накіраваўся да рыбаловаў, каб у асабістым кантакце выявіць іх прыналежнасць да пэўнага сацыяльнага слою.

— Як справы, рыбакі? —гукнуў весела.

— Добра! — задаволена прамовіў маладзейшы. — Другі раз ужо закінулі, толькі дзесьці сетка за корч зачапілася, і пакуль мы тут валэндаемся, рыба ўцякае.

— Эх, разявы! — са скрухай прамовіў Міхась і разам з рыбакамі пачаў маніпуляваць сеткай, каб вызваліць яе з карча. Аж спацелі ўсе, пакуль адчапілі. За работай і не заўважылі, як па беразе адкормленай качкай праваллюхаўся легкавік, як ён спыніўся непадалёку і выпусціў са свайго тоўстага бруха людзей у міліцэйскай форме.

— Як справы, рыбакі? — гукнулі весела, як і нядаўна Міхась. — Мы з абласной міліцыі, ловім браканьераў.

Нямая сцэна цягнулася доўга, аж пакуль яе не перапыніў сам Купіна.

— Дык і я ж, ці паверыце, гэтым самым займаюся,— паведаміў ён міліцыянерам, бо, каб вы ведалі, раённую прыроду ахоўваю. Там, у кустах, і вопратка мая форменная, і пасведчанне ляжыць.

— Маладзец! Пахваліў яго малады капітан.— За садзейнічанне браканьерам атрымаеш двайную мерку. Нясі сюды форму і пасведчанне.

Міхась нырнуў у кусты, схапіў сваё адзенне і хацеў растварыцца ў прыродзе, якую так шчыра ахоўваў. Але яго пільнавалі. Малады капітан спрытна схапіў ахоўніка за каўнер і лёгка, як травяного коніка, прынёс на бераг.

І рыбакі, і Міхась атрымалі сваё. Толькі дзядзька Жабскі аказаўся беднай ахвярай, якую выпхнулі на пенсію без традыцыйнай ганаровай граматы і кветак. І за яго ніхто не заступіўся.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Клопаты праз "Клопат"

**Сацыяльная праграма "Клопат", якая дзейнічае ў Мастах, прадугледжвае догляд за адзінокімі і адзінока пражываючымі пенсіянерамі і інвалідамі.**

Такіх людзей у Мастоўскім раёне налічваецца чатыры з паловаю тысячы. Пры сабесе створаны аддзел сацыяльнай дапамогі. Сёння доглядам карыстаецца 671 чалавек, а год назад іх было 530. Абслугоўвае іх 530 сацыяльных работнікаў.

## Сеяць няма чым

**Травеньскія маразы знішчылі на Мастоўшчыне прыблізна 40% яравых пасеваў.**

Шырокаагучаная кампанія перасеву пасіху прыпынілася. Калі пытанне з гаручым неяк вырашылася, то стала не хапаць насення. У некаторых калгасах і саўгасах раёна кіраўнікі, дзеля таго, каб не пуставала зямля, дазволілі людзям на гэтых плошчах садзіць і сеяць што заўгодна.

## Людзям дасталося па адной бутэльцы

**У саўгасе "Мастоўскі" пасля пасадкі бульбы рэшткі яе збылі камерсантам.**

Клубні абмянялі на цукар і алей. Канторскія работнікі не толькі разабралі цукар, але і змаглі набыць па некалькі літровых бутэлек таннага алею. У той час рабочыя атрымалі толькі па адной бутэльцы.

**Антон МАКЕЙ**

## Прызначаны новыя кіраўнікі

**У Дзятлаўскім раёне зацверджаны шэраг новых кіраўнікоў.**

Старшынёй калгаса «Войневічы» стаў Юры Адамчык. Кіраўніком раённага вытворчага аб'яднання "Сельгасхімія" прызначаны Мар'ян Захарэўскі. Дырэктарам райбыткамбіната зацверджаны Уладзімір Золатаў.

## "Сваёй Радзіме, беларускаму народу"

**Так называецца кніжная выстава, якая нядаўна адкрылася ў дзятлаўскай раённай бібліятэцы. Яна прысвечана 105 гадавіне з дня нараджэння Ігната Дварчаніна.**

Ігнат Сымонавіч паходзіць з вёскі Пагіры Дзятлаўскага раёна. Ён быў навукоўцам, літаратарам, грамадскім дзеячым і праславіў Беларусь далёка за яе межамі. Земляк і шчыра шануюць памяць Ігната Дварчаніна. У цэнтры Дзятлава яму пастаўлены помнік, а ў вёсцы Пагіры, дзе ён нарадзіўся, адкрыта мемарыяльная дошка.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Кожны другі — пенсіянер

**У Мастоўскім раёне пражывае 41500 чалавек, з іх амаль 20 тысяч у горадзе.**

Пры гэтым, адна трэцяя частка ад усяго насельніцтва раёна – пенсіянеры. Іх налічваецца 13655. На вёсцы колькасць пенсіянераў складае 9521 чалавек, гэта амаль палова вясковых жыхароў.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

Газета Слонімская
1 — 7 чэрвеня, 2000г. № 23 (156)

# ПОКА СУЩЕСТВУЕТ НАРОД

**Профессор Адам Мальдис переизбран президентом Международной ассоциации белорусистов (МАБ). Это стало известно после отчетно-выборного заседания III международного конгресса белорусистов, который 24 мая завершил в Минске свою первую весеннюю сессию.**

МАБ была создана в мае 1991 года на I учредительном конгрессе белорусистов в Минске. Сейчас ассоциация объединяет около 650 человек в 24 странах мира. За девять лет существования МАБ издала 15 научных сборников "Беларусика — Albaruthenika", 53 номера бюллетеня "Кантакты і дыялогі", провела свыше 40 конференций и "круглых столов", три международных конгресса белорусистов. Инициатором создания МАБ был известный белорусский ученый, доктор филологии, профессор Адам Мальдис, который десятый год возглавляет ассоциацию.

Комментируя для БелаПАН итоги нынешней сессии III конгресса, председатель "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" (ТБМ) Олег Трусов отметил: несмотря на сложную ситуацию в Беларуси, международная общественность приняла активное участие в работе конгресса — в Минск прибыло около 270 ученых из 11 стран мира. "Это свидетельствует о том, что пока существует народ, будет жить и наука о его истории и культуре", — сказал О.Трусов. По его словам, интерес к Беларуси растет во всем мире. Об этом, в частности, свидетельствует тот факт, что в некоторых учебных заведениях Казахстана стали преподавать белорусский язык, а ученые этой страны создают национальное объединение белорусистов.

**Марат ГОРЕВОЙ**

## СПИД не дремлет

**Все чаще среди ВИЧ-инфицированных в Брестской области выявляются семейные пары.**

Как сообщил БелаПАН заведующий профилактическим отделом Брестского областного центра профилактики и борьбы со СПИДом Степан Завада, ныне в Барановичах живут четыре пары зараженных смертельным вирусом людей, столько же — в Пинске. В некоторых семьях есть дети, однако все они рождены до инфицирования родителей. Медики стараются не допустить рождения больных детей в таких семьях: у четырех женщин из-за угрозы рождения ВИЧ-инфицированного ребенка была прервана беременность.

По последним данным, в Брестской области выявлено 143 ВИЧ-инфицированных, 16 их них — в 2000 году. В 90 процентах случаев это наркоманы, 85 процентов из которых — молодые люди в возрасте от 15 до 30 лет. В этом печальном списке по-прежнему лидирует Пинск, где живет 81 инфицированный, далее идут Барановичи (24 человека).

**Валентина КОЗЛОВИЧ**

## Цены под контролем государства

**Вступили в силу изменения и дополнения в Закон "О предпринимательстве в Республике Беларусь".**

Поправки обязывают предпринимателей исполнять решения государственных органов и иных субъектов права, уполномоченных президентом, которые осуществляют регулирование и контроль ценообразования.

При этом, предприниматели должны соблюдать установленный порядок ценообразования, порядок исчисления затрат, относимых на себестоимость; учитывать в полном объеме включаемые в цену (тариф) налоги и другие обязательные платежи, предусмотренные законодательством; не допускать нарушения установленных регулируемых цен (тарифов) и действующего порядка их регулирования.

На предпринимателей также возлагается обязанность представлять государственным органам, осуществляющим регулирование ценообразования, полную и достоверную информацию, необходимую для установления регулируемых цен (тарифов) и контроля за соблюдением порядка ценообразования.

**Юрий ПОТЕМКИН**

## "Весна" расследует обстоятельства ГИБЕЛИ УЧИТЕЛЬНИЦЫ

**Брестское отделение правозащитного центра "Весна" начало самостоятельное расследование обстоятельств гибели учительницы из города Жабинка Ирины Панасюк.**

Напомним, что 33-летняя женщина была сбита автомобилем "Вольво" Брестского облисполкома поздно вечером 8 мая на автодороге Минск — Брест, возле деревни Тельмы. От полученных травм она скончалась на месте.

Это дорожно-транспортное происшествие привлекло внимание общественности еще и потому, что в автомобиле "Вольво" в тот момент находился председатель Брестского облисполкома Василий Долголев. На месте аварии в ночь с 8 на 9 мая лично побывал начальник ГАИ УВД Брестского облисполкома Владимир Надеин. Позже прокуратура Брестского района возбудила в отношении водителя "Вольво" уголовное дело за нарушение правил безопасности движения. В Бресте очень быстро распространились слухи о том, что погибшая женщина была пьяна и едва ли не сама бросилась под колеса автомобиля. Все это, по мнению правозащитного центра "Весна", может помочь водителю "Вольво" уйти от ответственности. А ведь у Ирины осталась дочь — теперь уже круглая сирота, так как ее отец тоже умер в этом году.

Расследованием обстоятельств происшедшей накануне праздника Победы трагедии занимается известный брестский оппозиционер Геннадий Самойленко. Он сообщил БелаПАН, что уже встретился со свидетелями трагедии и обещал впоследствии предоставить материалы проведенного им расследования. Что же касается правоохранительных органов, то они на контакт с журналистами не идут, отказываясь давать какие-либо сведения относительно этого уголовного дела.

**Валентина КОЗЛОВИЧ**

## Пришла пора

**Две тысячи розовых шаров взлетят в небо Минска на проспекте Машерова 1 июня — в День защиты детей.**

Произойдет это благодаря проекту "Наш Мир", который реализует молодежный образовательный центр "Фиальта" в рамках программы "Здоровье и развитие молодежи" представительства Детского фонда ООН (ЮНИСЕФ) в Беларуси.

По словам организаторов, участниками акции станут 2000 подростков Беларуси, в основном, старшеклассники минских школ. Они стоят на пороге нового этапа своей жизни, и мечты об исполнении желаний, защите собственных прав приобретают для них особый и очень реальный смысл. Цель праздника — перестать "просто говорить о своих правах", а начать эти права реализовывать самостоятельно.

Стоит отметить, что данное событие имеет свою предысторию. Воздушные шары для акции центру "Фиальта" передал американский астронавт Джордж Нельсон. В свое время в тот день и час, когда его космический корабль взлетал с мыса Канаверал, в родном городе Д.Нельсона Уиллморе были выпущены в небо розовые шарики — в знак того, что каждому под силу исполнить свою мечту.

**БелаПАН**

## СВЫШЕ СЕМИ МИЛЛИОНОВ ЧЕЛОВЕК было пропущено через белорусскую границу



Фота IREX/ProMedia

*Сотрудник таможенной службы проверяет отделения для багажа в салоне автобуса на белорусско-польской границе, г.Брест.*

**По данным Государственного комитета пограничных войск Беларуси, в январе-апреле 2000 года через государственную границу Беларуси было пропущено более 7 миллионов 200 тысяч человек и свыше 1 миллиона 600 тысяч транспортных средств. За весь прошлый год эти показатели составили соответственно 21 и 4,5 миллиона человек.**

За первые четыре месяца года белорусскими пограничниками было задержано 700 нарушителей границы и примерно одна тысяча нарушителей пограничного режима. Выявлено 150 различных тайников и укрытий в транспортных средствах и грузах, пресечено около 400 попыток провоза через границу материальных ценностей на сумму около 900 миллионов рублей, задержано около 20 килограммов различных наркотических средств.

**Вячеслав БУДКЕВИЧ**

## Брось сигарету

**В Беларуси курит 45—47 процентов взрослого населения, курильщиками является почти половина мужчин Минска.**

Такие неутешительные данные сообщил журналистам заместитель министра здравоохранения Валерий Филонов.

Распространенность в Беларуси курения среди мужчин в возрасте от 23 до 34 лет составляет 52 процента, от 35 до 44 лет — более 40 процентов, от 45 до 54 — 42,9 процента, от 55 до 64 лет — 38,4 процента. Однако наиболее популярно курение среди молодых людей. По оценкам медиков, его распространенность среди мужчин в возрасте от 15 до 24 лет может достигать 70 процентов.

Среди женщин в возрасте от 25 до 34 лет распространенность курения составляет 7 процентов, от 35 до 44 лет — также 7 процентов, от 55 до 64 лет — 5 процентов.

Как сообщил врач-онколог, руководитель отдела НИИ онкологии и медицинской радиологии Геннадий Муравьев, в 1999 году в Беларуси было зарегистрировано 6137 человек, заболевших раком легких. Причем, 25 процентов из них имеют наиболее опасную форму заболевания, при которой человек умирает спустя 8–10 месяцев после постановки диагноза.

**Алексей ОРЕШКО**

## Подлинность голоса Винниковой ПОДТВЕРЖДЕНА

**Завершена фоноскопическая экспертиза интервью бывшего председателя правления Национального банка Беларуси Тамары Винниковой, которое она дала радиостанции "Свобода" в конце минувшего года.**

Об этом сообщил на пресс-конференции в Минске генеральный прокурор Беларуси Олег Божелко. По его словам, экспертиза подтвердила подлинность голоса Т.Винниковой, однако местонахождение ее не установлено. Соответствующие запросы, сообщил О.Божелко, направлены по линии Министерства иностранных дел Беларуси и Интерпола.

Как сообщил генеральный прокурор, не установлено пока и местонахождение Юрия Захаренко, Виктора Гончара и Анатолия Красовского, которые пропали в 1999 году. Олег Божелко особо подчеркнул, что не установлено и фактов совершения преступлений в отношении этих людей. Следствие, по его словам, рассматривает все возможные версии исчезновения известных в республике людей, в частности, связанные с коммерческой деятельностью А.Красовского и общественной деятельностью В.Гончара. "Есть оперативные наработки, но мы их не можем разгласить", — заявил генеральный прокурор.

**Вячеслав БУДКЕВИЧ**

## Пересеем

**До 1 июня правительство Беларуси рассчитывает завершить пересев сельскохозяйственных культур, погибших во время майских заморозков и засухи.**

По словам первого заместителя министра сельского хозяйства и продовольствия Вадима Попова, в настоящее время уже пересеяно более 100 тысяч гектаров, или около одной трети посевных площадей, погибших от заморозков и засухи. По регионам картина сложилась следующая: в Брестской области пересеяно 34 процента, Гомельской — 26, Гродненской — 28, Витебской — 60 процентов, Минской — 36, Могилевской — 38 процентов.

Всего же, по данным Минсельхозпрода, от майских заморозков и засухи погибло 313 тысяч гектаров озимых и яровых культур. Еще более 214 тысяч гектаров было повреждено.

**БелаПАН**

## Две тонны отходов на одного человека

**В Беларуси ежегодно производится 22 млн. тонн отходов — более двух тонн на душу населения.**

Об этом сообщил начальник сектора информации управления организационной работы, экономики природопользования и информации Министерства природы Александр Матесович. Средний мировой показатель — 300 кг отходов в год на человека — в 7 раз меньше белорусского.

По мнению А.Матесовича, особенно острой для Беларуси является проблема токсичных отходов. Многие предприятия накапливают их вблизи своих территорий, а затем эти отходы — "если они не слишком токсичны" — отправляются на свалки. Для переработки токсичных отходов, как сообщил докладчик, строится предприятие в Чечерске (Гомельская область), однако трудно сказать, когда оно будет построено.

Как считает А.Матесович, можно говорить о прогрессе в проектировании промышленных и градостроительных объектов: если раньше до 40 процентов предлагаемых проектов возвращалось на доработку, то сейчас имеют место лишь единичные случаи.

**Владимир ТРЕТЬЯКОВ**

